*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 29 (517) 18 ЛІПЕНЯ 2001 г.**

## *Да 125 – годдзя Цёткі*

11 ліпеня ў менскім кінатэатры "Змена" адбылася імпрэза, прысвечаная 125-м угодкам з дня нараджэння Цёткі.

Вяла імпрэзу першы намеснік старшыні ТБМ Людміла Дзіцэвіч.

Выступілі даследчыкі творчасці Цёткі Лідзія Арабей, Валянціна Коўтун, Мікола Купава. Спявалі барды Зміцер Бартосік і Пятро Русаў.

Быў паказаны мастацкі фільм зняты яшчэ ў 1991 г. па сцэнарыю Валянціны Коўтун.

Гэтай імпрэзай ТБМ распачало ўсебеларускае святкаванне 125-х угодкаў Цёткі.



## Фэст у гонар Цёткі на Шчучыншчыне

*15 ліпеня Шчучыншчына святкавала 125-я ўгодкі сваёй вялікай зямлячкі, першай беларускай паэтэсы Алаізы Пашкевіч (Цёткі). На свята прыехалі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў: Навум Гільпяровіч, намеснік старшыні Саюзу, Віктар Праўдзін, намеснік старшыні Саюзу, Валянціна Тоўкун, Аляксей Пяткевіч, Юрка Голуб, супрацоўнік Інстытута літаратуры НАН Ірына Багдановіч, краўнікі ТБМ імя Францішка Скарыны Алег Трусаў і Людміла Дзіцэвіч, прадстаўнік Міністэрства культуры Тадэвуш Стружэўскі, кіраўнікі Шчучынскага раёна, супрацоўнікі аддзелаў культуры і адукацыі, прышлі настаўнікі і вучні мясцовых школаў.*

Фэст пачаўся ў в. Стары Двор каля магілы Цёткі. Тут гасцей віталі вучні і настаўнікі Хадзілонаўскай школы, а таксама хор "Пераўвасабленне" Шчучынскага РДК.

У Астрыне, на радзіме паэткі імпрэза пачалася каля помніка Цётцы, затым госці наведалі музей Цёткі ў Астрынскай школе. Тут жа прайшла навуковая канферэнцыя па творчасці Цёткі. Адна з асноўных думак, якая прайшла на канферэнцыі, гэта вынова, што Цётка ўвасобіла сабой змагарны дух Рагнеды і асветніцкую дзейнасць Ефрасінні. Цётка, якую ўсе ведаюць, як паэтэсу, магчыма яшчэ ў большай ступені чым паэткай была асветніцай. Яна адкрывала беларускія школы, пісала падручнікі, прыспешвала Тарашкевіча ў працы над граматыкай. Яна закладвала падмурак беларускай школы. І таму рэзкім дысанансам да святочных настрояў прагучаў выступ старшыні ТБМ Алега Трусава. *Помнік Алаізе Пашкевіч у Старым Двары быў пастаўлены ў 1937 годзе пры польскай уладзе, якая не цярпела нічога беларускага, а сёння ў беларускай дзяржаве, у Астрыне, на радзіме Цёткі, у школе імя Цёткі ўжо другі год набіраюць дзяцей ў рускія класы. Праз колькі гадоў школа імя Цёткі стане рускамоўнай.* У гэтым месцы Трусаў далікатна спыніўся. Мы ж можам працягнуць. **Русіфікацыя Астрынскай школы – не проста здзек над памяццю Цёткі, не проста здзек над здаровым сэнсам, гэта знявага ўсёй Беларусі. І ніякія адгаворкі дырэктара пра палітыку ў краіне значэння не маюць.**

Пасля Астрыны эстафету свята прыняў Шчучын, дзе пяць гадоў назад быў пастаўлены помнік паэтцы.

А далей свята працягвалася па ўсёй Шчучыншчыне: у горадзе, вёсках, на беразе Нёмана.

Пра адносіны шчучынцаў да Цёткі і да людзей, якія займаюцца вывучэннем і папулярызацыяй творчасці Цёткі можа сведчыць ужо тое, што мясцовыя паэты прысвячаюць свае вершы не толькі самой Цётцы, але нават і даследчыкам яе творчасці. Шчучынскі паэт Рычард Бялячыц у Астрыне прачытаў свой верш, прысвечаны Валянціне Коўтун, аўтару кнігі пра Цётку "Крыж міласэрнасці" і, як высветлілася, колішняй настаўніцы паэта.

***Прыпомню час далёкі зноў.***
***Прыціхлы клас, трывога грому.***
***Насупраць квецені садоў***
***Жаночы вобраз нерухомы.***

***У свеце , сонца апрача,***
***Святлей нічога няма паблізу.***
***І ў задуменёных вачах***
***Нязгасны вобраз Алаізы.***

***За вышыней гадоў стаю,***
***Спрасаван час у сіняй ручцы,***
***На думку даўнюю маю***
***Падкажа хто Вам азірнуцца?***

Засталося дадаць, што да 125-х угодкаў Цёткі ў Шчучыне былі выраблены керамічныя юбілейныя медалі.

## *Сустрэча ў Магілёве*

30 чэрвеня ў Магілёўскай гарадской бібліятэцы імя К. Маркса адбылася сустрэча яе наведвальнікаў з вядомымі беларускімі гісторыкамі Анатолем Грыцкевічам і Алегам Трусавым. Прымеркаваная да 60-годдзя гераічнай абароны горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, сустрэча вылілася ў шчырую і змястоўную гутарку паміж даследчыкамі гасцямі і іх цікаўнымі суразмоўцамі. Была закранута не толькі тэма абароны Магілёва і тэма Другой сусветнай вайны ўвогуле. Госці далі грунтоўныя адказы на многія праблемныя пытанні нашага сённяшняга жыцця.

А распачынаў сустрэчу вершамі Янкі Лучыны, Янкі Купалы і Аляксея Пысіна заслужаны работнік культуры РБ Валянцін Ермаловіч.

Напрыканцы былі падведзены вынікі гарадскога конкурсу вершаў і сачыненняў "Мая радзіма – Беларусь", арганізаванага Магілёўскай суполкай Маладога фронту і гарадской арганізацыяй ТБМ імя Ф.Скарыны. госці ўручылі пераможцам падарункі – кнігі з аўтографамі аўтараў.

*С. Украінка, старшыня Маг. гар. арг. ТБМ імя Ф.Скарыны.*

## ВЫБІРАЙ!




3 снежня 2000 г. дэлегаты III Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі прынялі рэзалюцыю "Аб правядзенні грамадзянскай мабілізацыйнай кампаніі падчас прэзідэнцкіх выбараў 2001 г." Галоўнай задачай грамадскіх арганізацыяў-сяброў Асамблеі паводле рэзалюцыі з'яўляецца правядзенне мабілізацыі дэмакратычна настроеных групаў грамадства, з тым каб забяспечыць іхні максімальна шырокі ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах. Рабочай групе Асамблеі было даручана распрацаваць план практычнага ажыццяўлення кампаніі грамадзянскай мабілізацыі.

Дзеля выканання пастаўленай задачы Рабочая група Асамблеі абрала Штаб мабілізацыйнай кампаніі, які адказвае за распрацоўку канцэпцыі і агульнанацыянальную каардынацыю мабілізацыйнай кампаніі "ВЫБІРАЙ".

Галоўная мэта мабілізацыйнай кампаніі "ВЫБІРАЙ" – забяспечыць як мага паўнейшы ўдзел адказных выбаршчыкаў у галасаванні. Дзеля дасягнення гэтай мэты ставяцца наступныя задачы:

- Прааналізаваць настроі ды чаканні грамадства ў апоры на сацыялагічныя даследванні;
- Акцэнтаваць увагу на групах, якія ў значнай ступені ігнаравалі папярэднія выбарчыя кампаніі;
- Данесці інфармацыю пра выбары да мэтавых групаў з выкарыстаннем розных інфармацыйных носьбітаў;
- Адыццявіць скаардынаваную ў агульнанацыянальным маштабе сістэму сацыяльных і творчых акцыяў для інфармавання і мабілізацыі людзей на выбары;

У мабілізацыйнай кампаніі "ВЫБІРАЙ" бяруць удзел грамадскія арганізацыі, асобныя людзі, але не партыі ды партыйныя арганізацыі. Падчас акцыяў мабілізацыйнай кампаніі раздаецца рэкламная прадукцыя толькі непалітычнага мабілізацыйнага зместу дзеля павышэння матывацыі выбаршчыкаў да ўдзелу ў выбарах.

Сэнс ключавога "паслання" кампаніі "ВЫБІРАЙ" – смела ідзі і выбірай сам сваю будучыню, будучыню сваіх нашчадкаў, сваёй краіны!

Дзеля агульнай каардынацыі мабілізацыйнай кампаніі "ВЫБІРАЙ" на нацыянальным узроўні быў утвораны Штаб. У Штаб уваходзяць 5 каардынатараў кампаніі "ВЫБІРАЙ" для мэтавых групаў і 7 тэхнічных работнікаў, а таксама рэгіянальныя каардынатары.

З усімі пытаннямі і прапановамі па мабілізацыйнай кампаніі "ВЫБІРАЙ" звяртайцеся:
Сяргей Мацкевіч – кіраўнік Штаба. Тэл. (017) 263-99-90
Ірына Віданава – каардынатар Штаба. Тэл (017) 206-59-09; 225-51-10
Аксана Холадава – сакратар Штаба. Тэл. (017) 225-65-93

Альбо да рэгіянальных каардынатараў:
Берасцейская вобласць – 8-029-651-29-59 Юрась Губарэвіч.
Віцебская вобласць – (0212)22-06-48 Юрась Корбан альбо Канстанцін Смолікаў.
Гарадзенская вобласць – 8-029-602-98-86 Вадзім Саранчукоў.
Гомельская вобласць – (0232) 57-75-38 Сяргей Адзінец альбо Арцём Бурыла.
Магілёўская вобласць – (0222) 25-84-00 Андрусь Кавалёў.
Менская вобласць – (0213) 45-962 ці 52-129 (хатні) Алесь Васьковіч.
Менск – (017) 213-43-52 ці 270-76-53 (хатні) Алена Анісім.
***Тэлефон штаба мабілізацыйнай кампаніі "ВЫБІРАЙ": (017) 225-65-93***

## ГРАМАДЗЯНСКАЯ ІНІЦЫЯТЫВА

Пасля прызначэння Нацыянальным Сходам Рэспублікі Беларусь даты выбараў Прэзідэнта РБ і афіцыйным пачаткам выбарчай кампаніі была абвешчана Грамадзянская ініцыятыва "Незалежнае назіранне". У якасці ініцыятараў кампаніі "Незалежнае назіранне" выступілі недзяржаўныя аб'яднанні краіны. Пагадненне аб спалучэнні намаганняў у справе арганізацыі сеткі назіральнікаў было падпісана з боку Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі, якая аб'ядноўвае больш за 500 арганізацыяў, 200 з якіх ужо зараз прымаюць удзел у падрыхтоўцы назіральнікаў, і Цэнтральнай Каардынацыйнай Рады (ЦКР).

Сукаардынатарамі ініцыятывы з'яўляюцца старшыня Рабочай групы Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі Алесь Бяляцкі і кіраўнік ЦКР Мечыслаў Грыб.

Галоўнай задачай ініцыятывы "Незалежнае назіранне" з'яўляецца:

- Забеспячэнне грамадзкага кантролю за правядзеннем выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.
- Стварэнне моцнай, дзеяздольнай сеткі незалежнага, непартыйнага назірання на тэрыторыі ўсёй краіны.
- Інфармаванне беларускай і міжнароднай грамадскасці аб выніках галасавання ў краіне.

На сённяшні дзень у сетцы ўжо задзейнічала 12 тысяч назіральнікаў. Пры чым неабходны мінімум 14 тысячаў мусіць быць знойдзены да 9 верасня.

З гэтай нагоды звяртаемся да вас з прапановай далучыцца да Грамадзянскай ініцыятывы "Незалежнае назіранне".

Звяртайцеся па дадатковую інфармацыю да абласных каардынатараў па назіранні:

Берасцейская вобласць – (0162) 26-65-69 Апанасенка Іна.
Віцебская вобласць – (0212) 22-49-25 Паўлаў Міхась.
Гарадзенская вобласць (0152) 77-39-75 Мальчык Сяргей, сакратар Сьвятлана.
Гомельская вобласць (02342) 4-58-91 Раманішка Віктар, сакратар Вольга.
Магілёўская вобласць (0222) 25-84-00 Колчын Аляксей, сакратар Вольга.
Менская вобласць (017) 221-60-55 Баранаў Валянцін.
Менск 213-43-52 Трусаў Алег, сакратар Тамара.
***Тэлефон прэс-цэнтра Грамадзянскай ініцыятывы "Незалежнае назіранне": (017) 282-23-23.***

# План работы Грамадскага аб'яднання

## "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" на 2001 год

Прыняты 1.06. 2001 г.
На пасяджэнні Рэспубліканскай Рады

| №№ п/п | Назва мерапрыемства | Тэрмін выканання | Адказны за правядзенне |
|---|---|---|---|
| 1. | Ушанаванне памяці ды святкаванне 150-ых угодкаў народзінаў Янкі Лучыны і 125-ых угодкаў народзінаў Алаізы Пашкевіч (Цёткі). Сумесна з Саюзам пісьменнікаў Беларусі | Ліпень | Сакратарыят, мясцовыя структуры ТБМ, Дзіцэвіч Л.М. |
| 2. | Работа па пашырэнні кола падпісантаў на "Наша слова" і іншыя беларускамоўныя газеты | на працягу года | Сакратарыят, першасныя суполкі ТБМ |
| 3. | Актывізацыя дзейнасці Берасцейскай абласной арганізацыі | на працягу года | Кручкоў С., Трусаў А., Новік М. |
| 4. | Арганізацыя працы камісіяў ТБМ (праводзіць пасяджэнні 1 раз на месяц) | на працягу года | Старшыні камісіяў ТБМ |
| 5. | Асветніцка-педагагічная праца з бацькамі, дзеці якіх пойдуць у дзіцячыя садкі і першыя класы ў 2001 –2002 навучальным годзе | на працягу года | Бацькоўскі камітэт, Адукацыйная камісія |
| 6. | Наладжванне актыўнага супрацоўніцтва з кніжнай крамай "Акадэмкніга". Сумесныя кніжныя выставы і прэзентацыі новых беларускіх кніжак | на працягу года | Сакратарыят, Менская гарадская арганізацыя |
| 7. | Актыўны ўдзел у прэзідэнцкай кампаніі з мэтай прапаганды беларукага слова, забяспячэнне моўных правоў грамадзян | ліпень-верасень | Сакратарыят, мясцовыя структуры ТБМ |
| 8. | Правядзенне семінараў: - гістарычнага ў г. Менску, - "Я магу жыць лепей" – на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі (пры магчымасці) | на працягу года | Анісім А.М., Дзіцэвіч Л.М. |
| 9. | Арганізацыя курсаў па вывучэнні і ўдасканаленні беларускай мовы | верасень-снежань | Сакратарыят, абласныя структуры ТБМ |
| 10. | Арганізацыя стварэння кампутарнай праграмы па кадыфікацыі і праграмы для праверкі арфаграфіі ў руска-беларускіх перакладах | ліпень-жнівень | Кручкоў С. |
| 11. | Распрацоўка "Стратэгіі развіцця беларускай мовы" | на працягу года | Сакратарыят, Рабочая група па распрацоўцы Стратэгіі |
| 12. | Працяг працы па стварэнні БНУ | на працягу года | Адукацыйная камісія ТБМ |
| 13. | Абмеркаванне стану беларускамоўнай адукацыі ў краіне | кастрычнік-лістапад | Адукацыйная камісія ТБМ, абласная і Менская гарадская рада ТБМ |
| 14. | Падрыхтоўка да рэспубліканскай тэрміналагічнай канферэнцыі | на працягу года | Тэрміналагічная камісія |

# Віктарына па тарасазнаўству

У верасні 2001 года плануецца ўстанавіць у Гарадку каля краязнаўчага музея мемарыяльную экспазіцыю, прысвечаную неўміручай паэме "Тарас на Парнасе". Да гэтай падзеі Гарадоцкая Рада ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны" праводзіць віктарыну па тарасазнаўству, як значнай галіне беларускага літаратуразнаўства. Прапануем чытачам, моладзі даслаць да 1 верасня па адрасу: 211540, г. Гарадок, вул. Гагарына 30б-16 свае адказы на наступныя пытанні.

1. Дзе і калі ўпершыню была надрукавана паэма "Тарас на Парнасе"?
2. Якія асобы, па даследаваннях літаратуразнаўцаў, лічацца магчымымі аўтарамі славутай паэмы?
3. Калі і кім было дакладна даказана існаванне Канстанціна Вераніцына?
4. Чым знакаміта асоба Канстанціна Вераніцына?
5. Якое месца займаюць памешчыкі Бондаравы ў лёсе К. Вераніцына?
6. Якая праблема павінна быць вырашана для канчатковага прызнання аўтарства паэмы за К. Вераніцыным?
7. Што вы ведаеце пра пару года, калі адбываліся падзеі, апісаныя ў паэме "Тарас на Парнасе"?
8. Кім і калі было знойдзена Пуцявішча, з якога паходзіць палясоўшчык Тарас?
9. Хто з'яўляецца аўтарам перакладу паэмы на англійскую мову?
10. Хто і калі знайшоў кракаўскі спіс паэмы "Тарас на Парнасе"?
11. У якіх кнігах найбольш поўна разгледжана праблема аўтарства знакамітай паэмы?

Пераможцы віктарыны будуць вызначаны па дакладнасці адказаў і тэрмінах іх падачы. Пераможцаў віктарыны чакаюць прызы.

**Гарадоцкая Рада ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны"**

# Новае выданне ТБМ




У менскім выдавецтве "Тэхналогія" пад ціtламі ТБМ Сымон Барыс выдаў невялікую, але надта патрэбную кніжачку "Беларускія імёны. Дапаможнік для маладых бацькоў". Слоўнік змяшчае традыцыйныя беларускія мужчынскія і жаночыя імёны. У ім адлюстраваныя найбольш ужывальныя беларускія формы імёнаў, распаўсюджаных у хрысціянскім свеце, а таксама дахрысціянскія імёны, якія бытавалі ў асяроддзі беларускіх арыстакратаў. Імёны пададзены, як на кірыліцы, так і на лацініцы.

Адрасуецца маладым бацькам у якасці дапаможніка пры выбары імя.

## МГА "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА" ПРЭС – РЭЛІЗ

5 – 6 ліпеня 2001 г. у Менску адбыўся Трэці з'езд беларусаў свету. У з'ездзе бралі ўдзел:

• 139 дэлегатаў і 35 гасцей з 18 краін свету (ЗША, Канады, Бельгіі, Аўстраліі, Англіі, Польшчы, Балтыйскіх краін, Расіі, Украіны, Казахстана, Малдовы, Узбекістана і інш.), прадстаўнікі 72 арганізацый беларускай дыяспары;
• 144 дэлегаты і 157 гасцей з Беларусі;
• прадстаўнікі дзяржаўных структур – Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры, Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў, Мінгарвыканкама, Міністэрства юстыцыі;
• пасол ЗША Майкл Козак і прадстаўнікі амбасадаў Украіны і Арменіі;
• прадстаўнікі міжнародных арганізацый – АБСЕ і ААН;

Работу З'езду асвятлялі 45 інфармацыйных агенстваў.

Дэлегатамі і гасцямі З'езду былі людзі розных сацыяльных станаў, прафесій, канфесій, палітычных плыняў і грамадскіх арганізацый з Беларусі і замежжа.

На з'ездзе працавалі секцыі:
• Беларуская дыяспара: праблемы і перспектывы
• Беларуская навука, культура, літаратура і мастацтва на Радзіме і ў замежжы.
• Беларуская сусветная інфармацыйная прастора.

З'езд прыняў наступныя выніковыя дакументы:

1.Пастанову аб падтрымцы Акта незалежнасці, прынятага Усебеларускім з'ездам 29 ліпеня 2000 г. у г. Менску.
2. Праграму "Замежная беларуская супольнасць у 21 стагоддзі (асноўныя дзеянні па кансалідацыі і дапамозе беларускай дыяспары да 2005 г.)".
3. Дэкларацыю "Наш шлях: вартасці і мэты".
4. Дэкларацыю "Беларуская дыяспара і свет".
5. Рэзалюцыю аб дзейнасці МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".
6. Заяву аб беларускай мове.
7. Рэзалюцыю "Аб падтрымцы Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і кансалідацыі беларускай дыяспары".

Нягледзячы на парады беларускіх амбасадаў у краінах былога СССР і рэкамендацыі Дзяржкамітэту па справах рэлігій і нацыянальнасцяў не ехаць на з'езд, "Бацькаўшчына" сабрала пад сваім дахам 2/3 вылучаных дэлегатаў. Дух канструктывізму, жаданне аб'ядноцца дзеля вырашэння праблем нацыянальнага жыцця перамог.

Адны з асноўных задач, якія ставіць перад Беларускай дзяржавай яе дыяспара і якія закладзены ў прынятай на з'ездзе Праграме, - стварэнне Дзяржкамітэту па дыяспары, прыняцце закона "Аб беларускай дыяспары", абарона правоў беларускай нацыянальнай меншасці ў краінах яе пражывання праз заключэнне адпаведных міждзяржаўных пагадненняў.

На з'ездзе адбылася прэзентацыя кнігі "Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржаўнасці", зробленай па заказу "Бацькаўшчыны". Матэрыялы для кнігі былі падрыхтаваныя Беларускім нацыянальным грамадскім арганізацыйным камітэтам. У кнізе падсумаваны гістарычны шлях беларускага народа, акрэслены галоўныя здабыткі беларускай нацыі.

У выніку працы з'езду быў закладзены трывалы падмурак для ўмацавання шчыльных сувязяў паміж "Бацькаўшчынай" як галоўнай арганізацыяй у метраполіі і беларускімі суполкамі ў замежжы, былі ўдакладнены перспектыўныя кірункі шматузроўневага ўзаемадзеяння (эканамічнага, інфармацыйнага, культурніцкага) беларусаў на Радзіме і ў замежжы дзеля супольнай карысці, прапанаваны механізмы вырашэння актуальных праблемаў нацыянальнага жыцця ў галіне навукі, эканомікі, адукацыі, культуры, падсумаваны вынікі працы за міжз'ездаўскі перыяд, перавыбраны кіраўнічыя органы арганізацыі.

Прэзідэнтам МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" абраны прафесар Анатоль Грыцкевіч, старшынёй Рады Алена Макоўская.

## Вітанне беларусаў свету

Сіла і моц кожнай нацыі вызначаюцца яе еднасцю. Ці не таму беларусаў увесь час імкнуліся раз'яднаць то па моўнай прыкмеце, то па веравызнанні, каб пазбавіць іх годнасці і гістарычнай спадчыны. Але нездольная прага да волі, нацыянальная самасвядомасць выдатных сыноў і дачок беларускага народа не дазволілі здзейсніць непапраўнае: знішчыць старажытны этнас.

Сённяшні з'езд беларусаў свету ёсць сведчанне і чарговы крок да нашай еднасці.

Таварыства беларускай мовы сардэчна вітае ўсіх удзельнікаў з'езду. Мы асабліва ўсцешаны тым, што асновай нашага яднання есць жыватворная крыніца, неўміручы наш скарб – беларуская мова!

Наша глыбокае перакананне: жыве беларуская мова – жыве беларуская нацыя – жыве Беларусь!

*Зачытана старшынём ТБМ 5 ліпеня на III з'ездзе беларусаў свету.*



№ 29 (517) 18 ЛІПЕНЯ 2001 г. Наша слова

# ПРА АДНУ ПРЫКАЗКУ І ЯШЧЭ СЁЕ-ТОЕ

"Наша слова" (№22) змясціла артыкул М. Булавацкага "Моўны кансіліюм з Іванам Лепешавым". Аўтар мімаходзь паведамляе, што ён настаўнік матэматыкі. Цяпер гэта ўжо не навіна, калі за моўныя пытанні бяруцца не толькі лінгвісты, журналісты, пісьменнікі, але і людзі іншых, негуманітарных прафесій. Хоць матэматыка, як усе ведаюць, самая дакладная навука, аднак аўтар-матэматык паказаў сябе не зусім дакладным у галіне філала-гіі. Вось адзін абзац з артыкула:

*"Яшчэ адну папулярную памылку робіць спадар Лепешаў у прыказцы "На табе, божа, што нам нягожа". Ні ў аднаго народа (і ў беларускага таксама) няма такой зняважальнай для Бога прыказкі. Браткі-ўкраінцы, да прыкладу, кажуць так "На тобі, небоже, що мені негоже". Нябога – бядак, небарака. А пры Саветах з гэтай прыказкі, адкінуўшы дзве літары, зрабілі атэістычную прапаганду, якую спадар Лепешаў гатовы ўжо лічыць нормай".*

Тут шэраг недарэчнасцяў. Па-першае, яшчэ Саветамі і не пахла, калі гэту прыказку ўжывалі менавіта з кампанентам "божа". У 1881 г. у форме ***"На табе, божа, што нам нягожа"*** яе запісаў В. Дыбоўскі ў Наваградскім павеце. Крыху пазней яна была зафіксавана М. Федароўскім у Ваўкавыскім павеце. А ў 1898 г. яна, у ліку іншых 2022 прыказак, запісаных у Барысаўскім уездзе Менскай губерні, была змешчана ў "Матэрыялах..." Я. Ляцкага. З кампанентам "божа" яна апублікавана ў 1862 г. у славутым зборніку У. Даля "Прыказкі рускага народа". У гэткай жа форме прыказку ўжывалі 130 гадоў таму, напрыклад, Л. Талстой і М. Ляскоў.

Па-другое, ва ўсіх украінскіх парэміялагічных даведніках прыказка падаецца так: ***"На тобі, боже, що мені негоже"***. Праўда, калі-некалі яна ўжывалася і ўжываецца, як ва украінскай, так і ў беларускай мовах з кампанентам ***"нябожа"***. Тут можна было б праілюстраваць гэта трыма ўрыўкамі (з ***"божа"***) – з твораў П.Броўкі, І. Новікава, У. Кузьмянкова і адным (з ***"нябожа"***) – з аповесці К. Каліны "Сватанне". Таму ў "Слоўніку беларускіх прыказак" (Мн.,1996) яна апісваецца ў такім загаловачным афармленні: ***"На табе, божа (нябожа), што нам (мне) нягожа"***. А слова ***"нябога"*** ў беларускай мове, як і ва ўкраінскай, мае не адно, а тры значэнні: ***1) пляменніца, 2) зварот да маладзейшага па гадах, 3) бядак, сірата.*** Цяжка сказаць, якое з гэтых значэнняў мелася на ўвазе ў, магчыма, першапачатковым варыянце прыказкі. Але няўрад ці трэцяе. Хутчэй, другое.

Па-трэцяе, няма ў гэтай прыказцы ніякай "атэістычнай прапаганды". Няма таксама і "зняважлівых" адносін да Бога. Зрэшты, у народнай мове спакон веку бытуе нямала прыказак і выразаў іншага кшталту, у якіх кампанент "бог", калі яго апрадмечваць, вяртаць яму зыходны сэнс, знаходзіцца, з рэлігійнага гледзішча, у не зусім сумяшчальным суседстве (пачуўшы іх, праваслаўны святар, бадай, скажа: "Не богохульствуй!"): "Дзякуй богу за бога, што бог даў бога"; "Бог не цяля, бачыць круцяля"; "І бог ашуканствам жыве: у аднаго адбярэ, другому дасць"; "у бога цяля ўкраў", "браць бога за бараду", "(страляць) богу ў вокны", "як у бога за пазухай..."

Вернемся цяпер да першага радка з цытаванага абзаца: *"Яшчэ адну папулярную памылку..."* Не можа памылка быць ні папулярнай, ні непапулярнай. Гэты назоўнік ніколі не кантактуе з прыметнікам "папулярны". Тут чарговая недарэчнасць. Гэтак жа няправільна, памылкова ўжыванне *"моўны кансіліюм з..."* ***Кансіліюм*** ні ў сваім звычайным значэнні ***("нарада некалькіх урачоў")***, ні ў нібыта пераносным, выкарыстаным у загалоўку згаданага артыкула, аніяк не можа спалучацца з творным склонам назоўніка.

М. Булавацкі знайшоў у маёй кніжцы сказ, дзе гаворыцца, што Надзею Грэк абралі ***"старшынёй Вярхоўнага Савета"***. І пачынае мяне павучаць: маўляў, трэба пісаць не ***старшынёй***, а ***старшынём***, як і ***пераможцам, мужчынам, цялём***. Тут ужо ўсё роўна як у тым лермантаўскім "Барадзіне": *"смешались в кучу кони, люди и залпы тысячи орудий"*. Пяцікласнік і той скажа, што гэта неаднародавыя назоўнікі: ***цялё*** – ніякага роду, ***мужчына*** – мужчынскага, а ***пераможца*** – агульнага роду. У творным склоне будзе: ***жанчынай-пераможцай, мужчынам-пераможцам.*** Ёсць агульнапрынятае правіла, замацаванае шматгадовай маўленчай практыкай, паводле якога назоўнікі мужчынскага роду з націскным канчаткам ***–а (-я)*** маюць у творным склоне пры мяккай аснове канчатак ***–ёй (-ёю)***, а пры цвёрдай - ***-ой (-ою)***: ***старшынёй, суддзёй, тамадой, старшыной (роты), Крапівой, слугой.*** Але выходзіць, што гэта правіла – не для ўсіх. Здаецца, дзіўна было б, каб які філолаг пачаў даказваць, што двойчы два – не чатыры, а пяць. Або што $(а+в)^2$ не $а^2 + 2ав+в^2$, а нешта іншае.

Яшчэ ў 1998 г. М. Булавацкі пісаў у "Нашым слове" (9.09.1998 г.) пра неабходнасць асобных знакаў-літар для абазначэння на пісьме злітных гукаў "дз" і "дж". Цяпер ён у "Моўным кансіліюме..." паведамляе, што з яго ўдзелам рыхтуецца часопіс для беларускіх настаўнікаў матэматыкі, у якім замест "дз" будзе выкарыстоўвацца знак "z", а замест "дж" – знак "d". Тут ужо, як гаворыцца, вольнаму воля. Але падумаем: а ці на карысць гэта беларускай мове і яе графіцы?

Аўтар піша, што гэта не ягоная ідэя, што, "напрыклад, У. Дубоўка выдаваў з такімі літарамі сваё "Узвышша". Але гэта няпраўда. Ніколі ў Дубоўкі не было "свайго "Узвышша". І ніколі ён нічога не выдаваў "з такімі літарамі". Ён толькі апублікаваў у часопісе "Узвышша" (1928. №4) артыкул "Праект літар для гукаў дз і дж".

Як вядома, у графіцы існуе агульнапрынятая сусветная практыка. Паводле яе, кожная літара алфавіту як асобны знак для абазначэння на пісьме пэўнага тыповага гука (фанемы) мае свой, толькі яму ўласцівы малюнак (абрыс), непадобны ні да адной іншай літары. Ідэальным мог бы лічыцца алфавіт, калі б у ім для кожнай фанемы была свая літара. Але такіх алфавітаў няма (яны былі б занадта шматлітарныя). У нашай графіцы, як і ў некаторых іншых, многія літары маюць два асноўныя значэнні (напрыклад, літары ***б, в*** у ***словах быць – біць, воз – вёз***). Няма ў беларускай графіцы асобных знакаў-літар для фанем ***"дж"*** і ***"дз"***. Яны абазначаюцца на пісьме спалучэннем дзвюх літар, кожная з якіх ужо заняла ў алфавіце сваю нішу. Такія спалучэнні літар называюцца дыграфамі або лігатурамі. І яны нармальна выконваюць сваю функцыю. Аналагічнае можна бачыць у шмат якіх іншамоўных алфавітах. Напрыклад, і ва украінскай мове гукі ***"дж"*** і ***"дз"*** перадаюцца на пісьме дыграфамі: ***бджола, дзвін***. Тое самае і ў польскай мове, дзе алфавіт складаецца з 33 літар, а па-за алфавітам ёсць яшчэ аж 7 дыграфаў, у тым ліку ***dz, dż*** для абазначэння афрыкатаў ***"дз"***, ***"дж"***. Дыграфы ці лігатуры характэрныя і для англійскай, нямецкай, французскай моў. І ўсё гэта не мае, як лічыць М. Булавіцкі, "уласнае неаргументаванае меркаванне", а агульнавядомая ісціна. Яе, як і табліцу множання, ніхто не аспрэчвае. Б. Тарашкевіч пісаў у 1929 г., што для кожнага з гукаў ***"дз"***, ***"дж"*** ужываюцца па дзве літары, але "вымаўляюцца ***дз і дж*** як адзін гук". Амаль тое самае адзначыў і Я. Лёсік у 1926 г.: "Для абазначэння гукаў ***"дз"*** і ***"дж"*** пішацца па дзве літары, але чытаюцца яны не паасобку, а разам, злітна: ***дзень, дзед***".

| Аўтары праектаў | ДЗ Друкаваная | ДЗ Рукапісная | ДЖ Друкаваныя | ДЖ Рукапісная |
|---|---|---|---|---|
| Мікола Былінкін | ꝺ | ∂ | ȷ̇ | ġ |
| Язэп Лёсік | ʒ | – | ǯ | – |
| " " | Д̆ д̆ | Ḋ ḋ | Ӂ ӂ | Ӂ ӂ |
| П. А. Растаргуеў | ђ | – | ћ | – |
| Ул. Дзяржынскі | S | S | – | – |
| Я. Бялькевіч | Д | Д з | Д̇ | Дж дж |

Рысунак 5

**Праекты літар для гукаў *дж* і *дз*, надрукаваныя ў часопісе "Узвышша" ў 1928 г.**

М. Булавацкі ў "Моўным кансіліюме..." не толькі спрабуе аспрэчваць мае выказванні, але і закранае іншыя пытанні. Піша, што яму шмат разоў "даводзілася выступаць у ролі словатворцы. Напрыклад, сучасныя слоўнікі перакладаюць расейскае ***"парус"*** як ***"ветразь"***, а ***"парусник"*** чамусьці як ***"парусінк"***... У маіх пісаннях гэтае слова падаецца як ***"ветразень"***... Буду настойліва карыстацца "сваім" словам у спадзяванні, што яно некалі стане нормай".

Апошнім часам досыць модна – выдумляць новыя словы. Пра словатворчы сверб пісаў і Н. Гілевіч: ***"Яшчэ і слоў арыгінальных / Хоць колькі мушу я ўтварыць, - / Цяпер жа вельмі непахвальна / Даступнай мовай гаварыць! / Каб з тымі докамі зраўняцца / І заслужыць іх пахвалу – / Хоць раз мне трэба пастарацца / Надзець штаны праз галаву!"***

"Парус" не "расейскае слова". Яно прыйшло да нас з Грэцыі. Як паказана ў тлумачальных слоўніках, яно мае не адно, а чатыры значэнні. І толькі ў першым, зыходным значэнні яно сэнсава супадае са словам ***"ветразь"***. Сэнсава, але не стылістычна. Таму ва ўсіх нашых акадэмічных слоўніках ***"ветразь"*** мае памету "паэтычнае", г.зн. яго ўжыванне абмяжоўваецца толькі ўрачыста-ўзнёслай паэзіяй. Прапанаваны наватвор ***"ветразень"*** (як заменнік слова ***"паруснік"***) нелагічны, нічым не апраўданы. Да таго ж ***"парусінк"*** мае тры значэнні: ***"парусны карабель"***, ***"той, хто шые парусы"*** і ***"той, хто займаецца парусным спортам"***.

Уявім сабе такую карціну, Дапусцім, замест ***"парус"*** (хоць бы ў яго першым, не батанічным і не архітэктурным значэнні) сталі б ужываць ***"ветразь"*** не толькі ў паэзіі, а ва ўсіх стылях мовы. Тады трэба было б прывесці ў сістэму ўсё лексічнае гняздо. А ў ім аж 8 слоў: ***парус, парусіна, парусінавы, парусна-вяслярнае, парусна-маторны, парусnасць, парусінк, парусны.***

Аматары новых слоў даволі часта ўжываюць ў некаторых выданнях такія, напрыклад, напісанні: ***эмацыйны, эмацыйнасць, патэнцыйны, функцыйны, дыферэнцыйны***. Ёсць і тэарэтычнае абгрунтаванне такога сціску слоў, утворных ад назоўнікаў на ***–цыя*** (з лацінскага ***tio***). Маўляў, суфіксы ***–анальна-, -альн-*** - занадта доўгія, не маюць пашырэння ў беларускай мове і збегам галосных на стыку марфем парушаюць гармонію гукаў. А як у такім разе, захоўваючы паслядоўнасць, скараціць, сціснуць аднакаранёвыя з папярэднімі словы ***патэнцыял, дыферэнцыял, функцыяналізм, функцыяналіст***? А як быць з дзесяткам утварэнняў ад слова ***"нацыя"***? Што, замест ***нацыянальны, нацыянальнасць, нацыяналіст*** пачнём ужываць ***нацыйны, нацыйнасць, нацыст***? Ужо ж ёсць у слоўніках ***"нацыст"***, але зусім з іншым значэннем...

Словы ***"тыраж"*** і ***"экзэмпляр"*** выкарыстоўваліся як адзіная назва пэўных прадметаў ужо на старонках "Нашай нівы" (напрыклад, у №2 за 1906 г.). Пераважная большасць сучасных выданняў ("Полымя", "Маладосць", "Беларусь", "Крыніца", "Роднае слова", "Беларуская мова і літаратура", "Звязда", "Народная воля" і інш.) карыстаюцца назоўнікамі ***"тыраж"*** і ***"экзэмпляр"***, і толькі некаторыя – словамі ***"наклад"*** (нядаўняе запазычанне з польскай мовы) і ***"паасобнік"*** ці ***"асобнік"***. А як настаўнікам ставіцца да гэтага? Што на што выпраўляць у вучнёўскіх адказах і пісьмовых працах: ***тыраж, экзэмпляр*** на ***наклад, паасобнік*** ці наадварот? І яшчэ: ад назоўніка ***тыраж*** за доўгія гады яго жыцця ўтварылася нямала слоў: ***тыражаванне, тыражаваны, тыражавацца, тыражны, шматтыражка, шматтыражны.*** Наўрад ці мажліва стварыць іх заменнікі ад слова ***наклад***.

Гэтыя і шмат якія іншыя наватарскія памкненні "палепшыць" мову толькі дыскрэдытуюць яе ды спараджаюць насмешкі з боку шматлікіх яе непрыхільнікаў. А між тым М. Булавацкі заканчвае свой артыкул заклікам: ***"Давайце займацца мовай. Яна даўно таго чакае"***. Пад ***"займацца мовай"*** разумеецца: ***"ачысціць яе, адмыць, упрыгожыць, вярнуць уласцівую ёй мілагучнасць і напеўнасць"***.

Не! Нельга гэтак кідацца словамі. Асабліва сёння, калі наша мова, па сутнасці, ***"изъята из обращения"*** (як сказаў нядаўна В. Быкаў у інтэрвію маскоўскай "Общей газете", калі над намі навісае рэальная пагроза страціць дзяржаўную незалежнасць, калі рашаецца лёс самой нацыі. Не бачыць гэтага можа толькі сляпы.

Пішу гэтыя радкі часткова пад уражаннем змешчанага ў "Настаўніцкай газеце" (16.06.2001 г.) "Звароту да грамадзянаў Рэспублікі Беларусь". Гэты зварот (на рускай мове) падпісалі 29 кіраўнікоў партый і грамадскіх аб'яднанняў (камуністычнай партыі на чале з Чыкіным, Беларускага патрыятычнага саюзу моладзі, саюзу фіцэраў, аб'яднання "Русь", ветэранаў, казацтва і пад.). Гэтыя кіраўнікі заклікаюць усіх грамадзянаў Беларусі ***"включиться в широкое народное движение в поддержку действующего Президента"***, пералічваюць "дасягненні" за апошнія сем гадоў. сярод іх і такое: ***"белорусский и русский языки стали равноправными государственными языками"***. Палохаюць: калі ***"нацыянал-радыкалы"*** і ***"иные силы, пользующиеся подержкой извне"*** захопяць уладу, то яны ***"лишат нас государственного двуязычия"***, ***"сделают всё, чтобы оторвать Беларусь от Росии"*** і г.д.

Дык ці ж можна сёння, страчваючы адчуванне часу і прасторы, лічыць актуальным заклік: "Давайце займацца мовай" (у сэнсе "ачышчаць, адмываць" яе)? Займацца мовай трэба ў тым кірунку, на які арыентуе статут ТБМ імя Ф. Скарыны: ***"аднаўленне ў грамадстве стаўлення да роднай мовы як да нацыянальнай святыні"***.

***Іван Лепешаў,***
***прафесар Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.***

# І БУДУЦЬ ЖЫЦІ ДЗЕТКІ ПАТОМНЫЯ

Пра беларускую літаратуру дзевятнаццатага стагоддзя звыкла гаварыць, што яна пераважна сялянскага вытоку. І гэта праўдзівае вызначэнне. Але ўжо і тады ішлі ў нашу літаратуру і патомныя гараджане, месцічы. І першы сярод іх быў Іван Неслухоўскі – Янка Лучына …

Янка Лучына – патомны мянчук. Ён і нарадзіўся ў Менску. І бацькі ягоныя былі патомныя менчукі, інтэлігенты. Бацька – Люцыян Неслухоўскі – займаўся адвакатурай. І сам Янка Лучына быў інжынерам-чыгуначнікам, служыў у канторы Лібава-Роменскай чыгункі, у яе тэхнічным бюро.

А беларускім паэтам ён пачуў сябе ў канцы васьмідзесятых гадоў XIX стагоддзя.

Друкавацца Янка Лучына пачаў у газеце "Мнский листок". Адзін з яго сучаснікаў – Аляксандр Уласаў – пра тую пару згадвае так:

"… У пачатку васьмідзесятых гадоў у Менску з'явілася першая газета "Минский листок".

Гэта была навіна як першыя майскія перуны. Менчукі з слязьмі прасвятлення і радасці чыталі "наш" лісток. У Менску, у нас, як у сталіцах, - свая газета…"

Янка Лучына быў сярод тых, хто таксама радасна вітаў выхад першай у Менску газеты.

**НЕ РАДИ СЛАВЫ ИЛЬ РАСЧЕТА…**

Не ради славы иль расчета
Предпринимаем мы "Листок",
Святая истина – забота
И цель его печатных строк:
Служить стране, глухой, забитой,
Где мрак невежества царит,
В лачуге, где, соломой крытой,
Мужик печально дни влачит.
Где деревянною сохою

Он заменил железный плуг.
Где почва скудная порою
Родит едва-едва сам друг,
Где до весны еще с овина
На корм солому оберут,
А для еды себе с мякиной
Крестьяне хлеба напекут.
Где нет ни спроса, нет ни сбыта, -
Всегда у всех пустой карман,
И вместо честного кредита
Один подлог, гешефт, обман,
Где не найдете вы торговли,
Хотя повсюду у ворот
Поставлен фактор ради ловли
Того, кто честно жизнь ведет.
Пускай же слово вместе с делом
Послужит в пользу всей страны;
Пускай в селенье запустелом
Луч засияет новизны!
А может быть, найдется семя,
На почву эту упадет
И облегчит нам наше бремя,
И плод обильный принесет.
Тот, кому дорог край наш бедный,
Тот будет брат наш и друг,
Кто же не ценит в грош его медный,
К нуждам нашим кто глух.
Скажем тому мы, тогда – не ищите
В "Листке" ответа на спрос или клич,
Там вы найдете, уже не взыщите,
Едкой сатиры лишь бич!

Пры газеце выйшаў "Минский календарь", дзе былі змешчаны ў беларускай мове літаратурны дадатак. *"Гэта было адкрыццём Амерыкі… Як кажуць, адкрылі цэлы народ, каторы займаў гэтую зямлю"* (З успамінаў Уласава).

Якраз гэтай парою Янка Лучына напісаў адзін з самых сваіх гарманічных, самых праніклнёных вершаў – "Роднай старонцы".

Ты параскінулась лесам, балотамі,
Выдмай пясчанай, неўраджайнаю,
Маці-зямліца, і ўмалотамі
Хлеба нам мерку не даш звычайную.

А сын твой, беднаю адзет сярмягаю,
З лыка пляцёныя лапці абуўшы,
Едзе драбінамі ці калымагаю,
Конем, што цягне, як бы заснуўшы…

Усё ў табе бедна. Часта заплача
Мужык араты дзеля злой долі,
Цяжка працуючы. Ён жа, адзнача,
З табой расстацца не жджэ ніколі.

І непрыглядную хату з пажыткамі,
І поле скупое, выган без пашы
Мы, апрануўшыся старымі світкамі,
Любім і цэнім – бо яны нашы.

Дасць Бог крывавым потам аратаму
Здабрыць пясчану зямліцу здарыцца,
Быць добра сытаму, хоць не багатаму,
А дзеля свята чарка нам зварыцца.

Завяршаўся верш афарыстычнымі радкамі;

Сонца навукі скрозь хмары цёмныя
Праглядвае ясна над нашаю ніваю
І будуць жыці дзеткі патомныя
Добрай доляй – доляй шчасліваю.

Пісаў Янка Лучына па-польску, парасейску і па-беларуску… пісаць пабеларуску яго скіравала стрэча з украінскай трупай Старыцкага ў Мінску. Узрушэнне ад стрэчы з гэтай трупай выплеснулася ў надзвычай шчыры верш-экспромт "Усёй трупе дабрадзея Старыцкага беларускае слова".

**БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА**

**Дзякуй Вам, брацікі, сястрыцы родныя!**
За Вашы хвацкія песні народныя,
За тую гутарку Вашу вясковую,

За праўду светлую, за праўду новую!

Даўно мы не чулі братняго голасу,
І ніва нашая колас па коласу
Ветрам развеем на, градам разбітая:
Стаіць бяздольная, богам забытая…

Ці то над Нёманам, ці то над Шчараю,
Ці над Дняпроўскай затокай старою,
Усюды падобныя, ветрам нясомныя.

Усюды сустрэнуць з хлебам і соллю,
І з добрым словам, і са слязамі
Песню святую, пісану боллю,
Усюды ахвотна пойдуць за вамі.

Братцы, сястрыцы! – праўды нясыта
Маці-Зямліца! Ой! Не забыта
Роднага слова святая сіла!..
Ёю гаворыць усюды – магіла!

Яе ж паслышыць наша старонка!
Спявайце ж, Братцы, смела і звонка:
Не згіне песня і Украіна!
Будзьце здаровы і

Янка Лучына.

Пісаць па-беларуску Янку Лучыну спрыяла і тая культуралагічная аўра, якая пачала складвацца ў Менску на тую пару…

**Тут з'явіліся такія руплі'ўцы, як Аляксандр Слупскі, выдавец "Паўночна-Заходняга каляндара", Мікола Татур, археолаг Андрэй Снітка, фальклярыст – і этнограф Доўнар-Запольскі.**

**Усе яны шчыра падтрымалі парыванні першага Менскага беларускамоўнага песняра ягоныя пастэльна-мяккую лірыку, спрыялі, каб ягоныя творы хоць як даходзілі да чытача. Нават была спроба іх выдаваць асобнай кніжачкай.**

Аднак Янка Лучына лічыў, што ім пакуль мала чаго створана вартаснага на беларускай мове. Прыкладам, на прапанову Мітрафана Доўнар-Запольскага, вядомага беларускага гісторыка, фальклярыста і этнографа, скласці рукапіс беларускіх твораў, Янка Лучына 25-га лютага 1894 года напісаў:

"Милостивый государь!

… Мысль об издании моих белорусских стихоплётных начинаний особыми брошюрами давно уже приходила мне в голову, от многих моих знакомых я тоже слышал её неоднократно. В сущности однако, мне кажется, нет у меня ничего оригинального, что стоило бы особых затрат и хлопот на издание. Разве издать мои переводы стихотворений Л. Кондратовича? Так опять едва ли это окажется возможным: цензура обратит внимание на источник и не пропустит.

Впрочем, я не отказываюсь предложить вам или кому бы вы пожелали те немногие мои вешицы, которые печатались в календарях Слупского и "Минском листке" во время его другого направления. Кое-что я бы мог ещё прибавить нового, что уже валяется у меня в бумажном хламе, а может быть, и ещё, понатужившись напишу.

**Сам инициатором издания не могу быть, но если бы оно состоялось, содействовать постараюсь.**

Не откажите скоро меня уведомить, ежели окажутся шансы на издание.

Без цели, то есть без надежды на печатание, моя и без того кульгавая муза маўчыць, зубы сцяўшы".

Як бачна, з гэтага ліста досыць шчырага і яскравага, Янка Лучына і сам не раз думаў пра выданне сваіх беларускіх вершаў. Нічога не меў супраць, каб хтонебудзь такі зборнік выдаў. У самога ў яго не ставала на гэта ні сродкаў, ні фізічнай сілы – Янка Лучына, быў скручаны цяжкай і невылечнай хваробай – паралічам. На Беларусі гэтую хваробу яшчэ называюць палярушам. Тым не менш, як бачым, дух паэзіі не пакідаў яго. Ён быў гатовы працаваць, тварыць дзеля роднай старонкі,

каб толькі бачыў, што ягоныя думкі, настроі даходзяць да чытача. А вось без гэтай надзеі ягонай музе, ягонай душы даводзіцца цяжка – маўчыць, сцяўшы зубы.

**Праз тры гады пасля згаданага тут ліста, у 1897 годзе, Янка Лучына заўчасна, у самым росквіце творчай сілы, на сорак шостым годзе памёр. Але думка пра выданне ягоных беларускіх твораў не пакідала сімпатыкаў ягонай творчасці. За гэта ўзяліся маладзейшыя, нацыянальна сведамыя беларусы, выгадаваныя на ягонай паэзіі. І найперш браты Луцкевічы, Івана і Антона. Гэта з іхняй рупнасці і ўбачылі свет танюсенькая, але з сваім такім выразным абліччам Лучынава кніжачка "Вязанку". Назву яе браты Луцкевічы вылучылі з Лучынавага верша "Пагудка". Ёсць у гэтым вершы такія радкі.**

Пісалася ў час думкі і ў добрай веры
Чы забавы з гэтых песень
хоць бы крышку будзе?…
Няхай судзяць браткі людзі
ды й на братнім судзе.
Назбіралась вязаначка на дар маёй браці
Сярэдзь нашых палей, лясоў,
сярэдзь сенажаці.
Не для зыску збіраліся і не дзеля хвалы,
Так – папросту,
як збіраем зелле ў дзень Купалы.
Не завадзіць па мазолі мінутка вяселля.
Я стараўся асцерагчысць паганага зелля,
А чы гэта ўдалося?… чы то зелле знаю?
Чы прыгодзен дар малы
братам у родным краю?
Думкі гэты мучаць душу ў вашага брата,
Калі вінен – выбачайце і…
Чым хата багата?

Лучынава кніжачка "Вязанка" ўбачыла свет у 1903 годзе праз шэсць гадоў пасля смерці паэта.

Гэта была і першая беларуская кніжачка дваццатага стагоддзя. І выдаць яе ўдалося толькі таму, што выдаўцы змаглі абысці цэнзуру – беларуская мова была


ВЯЗАНКА.

Янки Лучыны

(Ивана Неслухоўскаго)

Пецербургъ.
1903 року.

яшчэ пад забаронаю. Лучынаву "Вязанку" выдалі за балгарскую кніжку – і гэтак яна змагла пайсці ў свет.

… Маленькая кніжачка "Вязанка", але дарагая.

Янку Лучыну не давялося патрымаць яе ў руках, пацешыцца з яе, але гэта можам зрабіць мы, яго ўдзячныя чытачы. А такая мажлівасць у нас ёсць. У 1992 годзе выдавецтва "Мастацкая літаратура" перавыдала факсімальна Лучынаву "Вязанку" і новае пакаленне чытачоў ужо канца дваццатага стагоддзя займела мажлівасць далучыцца да шчырай, трапяткой душы Лучынавай паэзіі.

Лучынаў верш "Роднай старонцы" заканчваецца глыбокай ягонай вераю, што для Беларусі наступяць лепшыя, чым пры ягоным жыцці, часы…

***Сонца навукі скрозь хмары цёмныя***
***Прагляне ясна над нашай ніваю***
***І будуць жыці дзеткі патомныя***
***Добраю доляй – доляй шчасліваю!***

Гэтай верою жывуць і ўсё наступныя пакаленні. Яны чэрпалі гэтую веру з Лучынавай паэзіі.

… Пахаваны Янка Лучына ў сваім родным Менску, на старым Кальварыйскім могільніку. Тут побач з ім і ягоныя сваякі Неслухоўскія.

Вось ён, маленькі акропаль Неслухоўскіх, зусім побач з святыняй.

Менавіта гэты род даў першага з менскага гарадскога асяроддзя беларускага песняра. Янка Лучына – Іван Неслухоўскі першы беларускамоўны менскі пясняр. Пра гэта мусіць ведаць кожны, хто даражыць і цікавіцца гісторыяй роднага горада, хто неабыякавы да сваіх вытокаў, сваіх каранёў.

Ён і назваў сябе Янам, Янкам, бо і нарадзіўся на цудоўнае свята – на Івана Купалу – на Купалле. І псеўданім сабе ўзяў – ясны, светлы – Лучына.

Промнем сваёй паэзіі і ён, як той Данка, хацеў асвятляць душы людзей свайго краю. Ён верыў у прагрэс навукі, прадбачыў наша сённяшняе жыццё ва ўсіх яго праявах. А што людзі? А людзі як людзі. Яны, як гэта найчасцей надараецца, забываюцца пра тых, хто аддаваў ім усю палымянасць сэрца, хто дбаў пра іхнюю лепшую долю.

Але міне яшчэ нейкі час, людзі ўспомняць таго, хто быў пэўны, што "сонца навукі скрозь хмары цёмныя прагляне ясна над нашай ніваю. І будуць жыць дзеткі патомныя, добраю доляй – доляй шчасліваю. Толькі трэба пра гэта ўспамінаць, дык так, каб мы адчувалі Янку Лучыну не якойсь далёкай гісторыяй, а нышым сучаснікам, з якога мы ўсе выраслі, прараслі…

***У. Содаль. 1.07.2001 г.***





*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Тое, дзе і як правёў рэштку ночы яе муж, Галіна Уладзіміраўна Улановіч ведала дакладна ў дэталях. Чыясьці невядомая ёй шчырая душа ўжо каторы год запар перадавала важныя звесткі і нічога не патрабавала ўзамен. Спачатку Галіна не прымала ніякай інфармацыі — шчыра верыла мужу. Аднойчы пераправерыла — звесткі падцвердзіліся, і з таго дня не было выпадку, каб тэлефонны ананім схлусіў. Праўду і толькі праўду казала ёй былая мужава каханка, якую ён пакінуў даўным - даўно.

Цёмныя акуляры не давалі магчымасці Сцяпану Сцяпанавічу здалёк разгледзець выраз твару жонкі, разгледзець і разгадаць яе намер ды своечасова заняць абарону. Расплата не прымусіла сябе чакаць. Глуха ляпнула па плячах гаспадарчая сумка, а разам з гэтым жонка пачала тлумачыць свайму "дарагому і адзінаму" прычыну свайго ўчынку:

— Ах ты, блудзень. На працу пайшоў. Ты да гэтай к ... пабег.

Размова мужа і жонкі, у час якой сакратарка хуценька выйшла з прыёмнай ды шчыльна зачыніла за сабою дзверы, каб не стаць выпадкова бязвіннаю ахвяраю, была нядоўгай.

Галка Улановіч кахала свайго мужа нягледзячы на яго шматлікія здрады, і таму яна пакрычала толькі некалькі хвілін на яго, затым вырашыла напаследак яшчэ раз ударыць сумкаю і на тым закончыць справу.

Удар быў няўдалы. Улановіч чакаў яго, і таму, як толькі жонка нязграбна замахнулася, ён, як малады певень, скокнуў убок. Але ад рэзкага руху ў яго упалі акуляры. Тут Галіна ўбачыла сінякі пад вачыма свайго Улановіча і ўзрадавалася — гэта ж муж каханкі паквітаўся з ім. Злосць імгненна прайшла, а на душы стала весела, і яна рассмяялася.

Справа зроблена.

Жанчына выйшла з кабінета і накіравалася дамоў, каб рыхтаваць абед свайму мужу, а па дарозе ў голас распавядала сама сабе, як гэта ўсё адбылося. Але яна не доўга весялілася, бо ёй здалося, што мужа маглі забіць. Ёй да слёз стала шкада Сцяпанку.

Чухаючы пабітае цагелкаю плячо, Улановіч пачаў збіраць раскіданыя на падлозе паперы, але завяршыць справу яму не далі. Важна адчыніўшы нагою дзверы, у кабінет зайшоў адзін са шматлікіх інструктараў райкаму партыі. Калі пагля-дзець на яго з боку, то можна было б падумаць, што ён сын сучаснага лейтэнанта Шмідта — горда ўзнятая галава, незалежны, быццам сталёвы, позірк. Не! Гэта быў звычайны партыйны Астап Бэндар, які марыў пра ўзыходжанне на Эверэст партулады.

Інструктар суровым позіркам паглядзеў на Улановіча і кісла ўсміхнуўся, затым прайшоўся па пакоі, агледзеў увесь гэты беспарадак і толькі пасля гэтага абыякава прывітаўся з галоўным урачом. Міністэрскае прывітанне звычайнага райкамаўскага служакі не спадабалася Улановічу, але ж ён прамаўчаў, бо прадчуваў нешта нядобрае.

Сённяшні дзень даваў інструктару вялікую надзею на светлае будучае, і ён спадзяваўся. Спадзяваўся, што зможа дагадзіць новаму начальству і ... Ён ужо рыхтаваўся да новай, невядомай яму пасады, у думках падбіраў сабе болей шырокі, цёплы пакой. І калі пачнуць дзяліць — самае галоўнае! — пасады, то ён пастаіць за сябе, пакажа ўсім, на што ён здольны. Усім! І, асабліва, сваёй жонцы: болей яна не будзе называць яго "партхалуём".

— Дзе тут Крыніца? — інструктар гаварыў так, нібы гаворка ішла не пра першага сакратара райкама партыі, а пра вулічнага шпанюка, які зноў нашкодзіў.

— Здымаюць?

— Няхай дзякуй скажа Салавейчыку. На пенсію турнулі.

— Ён там, у нашай палацы. Смажаную качку жарэ і півам запівае.

Доўгі, як жэрдка, худы і благі з твару інструктар меў на Улановіча зуб, а, пакуль ён заставаўся інструктарам, "укусіць" належным чынам галоўнага ўрача было неспадручна. І толькі цяпер у яго з'явілася надзея, што ўрэшце ўдасца адпомсціць гэтаму блудадзею. Уся справа ў тым, што жонка інструктара два гады назад лячылася ў спецыяльнай палаце райбальніцы. Беспрабудны інструктар-п'яніца Кулікаў і па сённяшні дзень абзывае гэтага партыйца "раганосцам".

— Майце на ўвазе. Калі вы гэтаму здаравеннаму бугаю выдумаеце якуюнебудзь хваробу, то я першы заяўлю маскоўскай камісіі.

— Не! Не! — паспешна запэўніў яго Улановіч.

— Майце на ўвазе. Мы яшчэ пагаворым пра вашыя паводзіны і ... пра ўсё астатняе.

Інструктар гэтак жа горда выйшаў, як і зайшоў.

Улановіч затросся ад злосці.

— Сапляк. Жэрдка. Вось скажу тваёй жонцы , Светцы, дык яна цябе раструшчыць як гніду.

Галоўны ўрач шпурнуў паперы на стол і пайшоў услед за інструктарам з кабінета.

XV

Нічыпар Кузянкоў ляжаў беспрытомным на зялёным лужку, дзе пасвіўся яго буланы і нічым не мог дапамагчы свайму гаспадару: нават не рабіў спробы.

На дапамогу вартаўніку-конюху паспяшаўся яго сябар — сталяр райбальніцы Прэйс. Худы — скура ды косці — сталяр крыху папацеў, крыху пакрактаў і зразумеў, што падняць мажнога Кузянкова ён не зможа. Тады Прэйс, чалавек, які мае сваю галаву на плячах, знайшоў радыкальнае выйсце: узяў Нічыпара за ногі і павалок саматугам.

Такія сцэны на бальнічным двары адбываліся даволі часта і таму на гэта ніхто — ні хворыя, ні медперсанал — не звяртаў ніякай ўвагі і ніхто не прыйшоў Прэйсу на дапамогу. Толькі буланы на хвілінку адарваўся ад свайго занятку, але тут жа апусціў галаву і апетытна захрумсцеў далей.

Нічыпар Кузянкоў быў чалавекам далікатнай натуры. Але справа была тут не ў далікатнасці. Пад галаву конюха трапіў камень велічынёй з кулак і разбіў патыліцу.

Сталяр з вялікімі патугамі працягнуў некалькі крокаў грузнага вартаўніка. Кузянкоў нават не варухнуўся. Тады Прэйс падумаў, што яго сябра, як заўжды, прыдурняецца і вырашыў правесці курс лячэння, які ў навуковых колах мае назву — інтэнсіўная тэрапія. Сталяр хоць і не меў спецыяльнай медыцынскай адукацыі, але сучасную медыцыну і тутэйшых медыкаў асабіста ведаў добра, бо працаваў тут ужо трыццаць гадоў, а сам лячыўся толькі гарэлкаю.

Лячэнне інтэнсіўнай тэрапіяй праводзілася так. Прэйс з усяго размаху кідаў ногі хворага аб зямлю, падыходзіў бліжэй да яго і што ёсць сілы біў нагою пад адно месца. Звычайна хворы хуценька ўскакваў на ногі, пачынаў лаяцца і лез біцца. Зараз Кузянкоў нават не зварухнуўся. Незразумелы ўчынак сябра не на жарт раззлаваў сталяра і ён яшчэ тры разы запар біў нагою ў тое месца і біў ужо не шкадуючы, але вартаўнік - конюх працягваў ляжаць як і ляжаў і не думаў падымацца.

Тады Прэйс піхнуў яго нагою ў жывот, а сам паглядзеў у вочы, ці не прыдурняецца. У гэты самы момант ён убачыў кроў на галаве Кузянкова і сумеўся, ды ад страху заенчыў сваім віскілвым галаскам. Буланы зноў адарваўся ад свайго занятку, але калі і зараз ён убачыў, што яго гаспадар ляжыць і не падымаецца, жаласліва заіржаў.

Ад енку Прэйса і ад іржання жывёліны Нічыпар Кузянкоў усхапіўся, але яшчэ добрыя дзесяць хвілін круціў галавою і ніяк не мог ачомацца, ніяк не мог зразумець, дзе ён і што з ім, дзе дзеўся нябожчык, і чаго перад ім крыўляецца сталяр, чаго ён гладзіць яго, як малое дзіця, па галаве рукою, якая запэцкана ў чырвоную фарбу.

Урэшце худому і доўгаму Прэйсу з вялікімі намаганнямі ўдалося падняць на ногі свайго сябра, і яны ўдвух, хістаючыся, падаліся ў сталярку.

Адзін хворы, якому ў гэты травенскі сонечны дзень ўдалося збегчы ад медперсаналу на двор, каб падыхаць свежым паветрам, доўга з замілаваннем назіраў за імі і ўрэшце сказаў:

— Ну, малайцы! Яшчэ няма дванаццаці гадзін, а яны на нагах не могуць стаяць.

Прэйс пасадзіў Нічыпара на адзінае ў сталярцы крэсла, у якога была зламана нага, і даў паперы выцерці кроў.

Каб падтрымаць сілы свайго сябра, сталяр дастаў з шафы пляшку віна, якую яму перадалі сягоння за адну паслугу. Ён выцягнуў адтуль яшчэ шклянку, дзьмунуў у яе, і яму ў твар паляцела смецце. Рэшткі смецця Прэйс дастаў пальцам і пачаў наліваць віно.

— Колькі? — запытаў ён у Нічыпара, нібы наліваў яму ўпершыню.

— Краёў не бачыш? — запытаў у сваю чаргу Кузянкоў і смачна аблізнуўся.

У імгненне вока вартаўнік-конюх апаражніў шклянку і стаў заглядваць у вочы свайму сябру з надзеяю, што той нальле яшчэ, але сталяр зрабіў выгляд, быццам не разумее гэтага позірку і спакойна паставіў бутэльку на стол.

Кузянкоў з болем у сэрцы зразумеў: наліваць яму болей не будуць, і пачаў гаворку пра падзеі, у выніку якіх ён стаў ахвяраю.

— І ён пайшоў?

— Хто ?

— Нябожчык.

— Вядома, пайшоў.

— Якія цуды на свеце не здараюцца. Памёр чалавек, а затым ажыў ...

— Якія цуды ... Што ты пляцеш? Проста яго ўчора падабралі на вуліцы і сунулі ў нашу міністэрскую палату, а затым ноччу прывезлі раённага верхаводу — Крыніцу. Ткнуліся туды, а там чалавек. Спяшаліся дагадзіць начальніку і не разабраліся. Ведаеш нашых канавалаў! Трапіш у рукі — жывым не выйдзеш. Спаў чалавек моцна после добрай гулянкі, а яны — памёр ... памёр — і шась яго ў трупэрню.

— Ай - яй -яй!

— Вось табе і "ай -яй -яй". Я так думаю ...

Выказаць сваю думку да канца сталяру не давялося. Нічыпар Кузянкоў з маланкавай хуткасцю схапіў са стала бутэльку з віном і, ні хвіліны не раздумваючы, перакуліў яе ў свой рот. Прэйс рашуча пайшоў на абарону кроўнай ўласнасці, але калі ён вырваў з рук конюхавартаўніка бутэльку, то там заставалася не болей як паўшклянкі віна. Тады ён дапіў рэшткі віна — што ж рабіць, не пакідаць жа ворагу! — І ўжо пустою бутэлькаю замахнуўся на таго, хто так бязбожна пакрыўдзіў яго і каго зусім нядаўна ратаваў.

— Хворых не б'юць! Хворых не б'юць! — у крыку Кузянкова быў страх і адчай адначасова.

Прэйс сапраўды не стаў біць Нічыпара, але ўсё ж ад лютай злосці зграб у жменю са стала стружкі і шпурнуў яму ў твар.

— Усе міжнародныя канвенцыі, якія, дарэчы, прызнае і Савецкі Саюз, забараняюць здзекавацца над раненымі і хворымі. Запомні гэта і не рабі болей так! — Кузянкоў зразумеў, што яго біць не будуць, і таму, страсаючы з сябе смецце, гаварыў, як заўжды, спакойна ды памяркоўна.

Сталяр канчаткова не супакоіўся і на розныя показкі чалавека, які сядзеў перад ім — пляваць хацеў. Ён, увогуле, не прызнаваў ніякіх аўтарытэтаў, ніякіх законаў. Нават сам не верыў у свае ўласныя абяцанні — яму таксама даўным - даўно перасталі верыць, і калі ён кляўся і абяцаў, што абавязкова сёння зробіць — ніколі не рабіў. Гэта быў яго прынцып.

Яшчэ не раз на Кузянкова ляцелі апілкі, стружкі і чулася звычайная лаянка.

— У -у ... гніда... Апівошына ... Ты замест таго, каб піць чужое ... Пайшоў бы да гэтага Крыніцы і спытаў бы яго: чаму твайму сыну ўжо дзесяць гадоў не даюць кватэры.

— І пайду ..., і спытаю ...

— Ты спачатку морду абмый, пытала ... Потым ідзі.

— А як ты думаеш? Змыю кроў і пайду.

— Ідзі, ідзі, гарляк бяздонны! — абурана закончыў Прэйс, нібыта сам ніколі гарэлкі ў рот не браў.

XVI

Пасля таго, як з палаты выйшаў гэты маладзенькі доктар, у Крыніцы адлягло ад сэрца. Будучыня перад Антонам Пятровічам зноў стала светлай і чыстай, з утульным кабінетам і чорнай "Волгай", першы рад у прызідыумах шматлікіх пасяджэнняў, шчодрыя апладысменты на кожнае сказанае ім глупства, пакорлівасць жанчын і шчырая усмешка задалізаў: "Антон Пятровіч! Антон Пятровіч!" Усё гэта зараз бясконца мроілася перад вачыма першага сакратара.

Падыходзіў час, калі ў палату павінен быў завітаць той самы маладзенькі доктар з выратавальным дыягназам. І сапраўды, дзверы палаты адчыніліся, але на парозе з'явіўся не доктар, а ... інструктар райкама Стручкоў — падхалім і баязлівец. На гэты раз інструктар Стручкоў паводзіў сябе незвычайна, не так, як заўжды — смела, незалежна і нават нахабна. Рашучым крокам ён зайшоў у палату, не прывітаўся і зычным голасам дыктара рэспубліканскага радыё, які распавядае пра поспехі жывёлаводаў у сацыялістычным спаборніцтве, сказаў:

— Рыхтуйся! Хутка цябе наведае дэлегацыя.

Крыніца ўсё зразумеў, але тым не менш паводзіны былога падначаленага былі яму не да спадобы. І ў наш светлы час перабудовы ён не прывык да такіх зваротаў і таму ўзнікла старое пякучае жаданне — трэба приструніць.

— Ох! Неяк ты, птушачка, сёння пасаблівасму заспявала?

— Маю поўнае права. Галоснасць у нас, — пачуў Крыніца рашучы адказ.

— І хто ж даў табе гэтае права?

— Перабудова дала.

— І даўно яна пачалася.

— У нас, можна сказаць, сягоння.

— Напэўна, з самага ранку?

— Не трэба так! Не трэба! Пакамандаваў і хопіць. Дай другім праявіць сваю ініцыятыву ...

— Да карыта дабрацца, каб пасёрбаць уволю. Маўчы, халуй. Я з табою яшчэ разбяруся ...

Інструктар Стручкоў не стаў болей спрачацца са сваім ужо былым начальнікам, а павярнуўся і выйшаў.

" Усё. Гэта канец!"

Ад пачутага Крыніцы зрабілася млосна і горача. Перад вачыма паплылі чорныя кругі.

"Ён ужо служыць новаму гаспадару. Шчанюк! Я ж яго, невука, падабраў, лічы, пад плотам. Абуў, адзеў ва ўсё імпартнае. Без усялякай чаргі даў яму кватэру. Ну і людзі... Ну і людзі... Колькі ім не рабі дабра — падзякі ніякай ... Ах, божа! Божа, ты, мой божа! .. Няўжо мне не будзе ніякага паратунку"?

У партыйнай веры Крыніца быў цвёрды, як камень ды непахісны як дуб і лічыў сябе ідэалам гэтай веры, і прымушаў, каб з яго слоў, а не кніжак верылі астатнія. Гэтых неслухаў, хто верыў кніжкам ці проста верыў болей, чым ён, называў ерэтыкамі. І дадзеную яму ўладаю палію іх: выключаў з партыі, знімаў з працы, даводзіў да турмы і торбы, а ўслед той нечысці, як попел з вогнішча, які раздзьмухвае вецер, ляцелі яго праклёны: маральна няўстойлівы, выпівоха, бабнік, дысідэнт.

*(Працяг у наступным нумары.)*

Язэп Палубятка







# Сэрца беларускай Вільні: да 80-х угодкаў заснавання Беларускага Музея імя Івана Луцкевіча

***Постаць Івана Луцкевіча займае асаблівае месца ў гісторыі беларускага грамадска-палітычнага і культурніцкага руху пачатку XX стагоддзя. Цяжка пералічыць усё тое, што зрабіў гэты чалавек для нацыянальнага адраджэння беларусаў. Можна прыгадаць хаця б, што менавіта дзякуючы ягоным намаганням пачала выходзіць першая беларуская газета – "Наша доля", а пазней – "Наша ніва". Гэтае выданне сталася эпохаю ў гісторыі беларускай культуры.***

***Аднак справаю ўсяго жыцця для Івана Луцкевіча было стварэнне беларускага нацыянальнага музея, экспанаты якога засведчылі б надзвычайнай багацце беларускай гісторыі і культуры.***

Цікавасць да археалогіі і гісторыі абудзілася ў Івана Луцкевіча вельмі рана. Яшчэ падчас вучобы ў гімназіі ён пачынае збіраць старажытныя манеты, зброю, упрыгожанні. У 1902 г. І. Луцкевіч паступае на юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта і адначасна, ажыццяўляючы сваю мару, распачынае заняткі ў археалагічным інстытуце. Пасля паспяховага сканчэння абедзвюх навучальных установаў Луцкевіч з новым энтузіязмам і на больш высокім навуковым узроўні працягвае сваю даследчыцка-збіральніцкую працу. Ён праводзіць шэраг раскопак, арганізуе этнаграфічныя вандроўкі, наладжвае сувязі з іншымі калекцыянерамі старажытнасцяў. Захопленасці, апантанасці, з якою вёў Іван Луцкевіч сваю дзейнасць, можна толькі здзіўляцца. Вось як успамінае першую сустрэчу з ім у рэдакцыі "Нашай нівы" Максім Гарэцкі: "Іван Луцкевіч быў тады здаровы і жыццярадасны чалавек. Дзве асаблівасці кінуліся мне ў вочы на беларускім полі: еўрапейскасць выгляду і энергічнасць Івана Луцкевіча. Вока, прызвычаенае да беларускай дэмакратычнай нядбайнасці ці проста нічым незакрытай неахайнасці ў вопратках было прыемна заваблена еўрапескай акуратнасцю ў яго сціплым касцюме. Тое самае было і ў манерах, і ў абыходжанні з людзьмі. Вуха, прызвычаенае да бясконца-нуднай гутаркі ці маркотнай маўклівасці замучаных ідэйнасцю грамадзян Беларусі было прыемна заваблена сціснутай, кароткай і цэннай, а галоўнае энергічна- рашучай гутаркай гэтага правадыра беларускага руху. Пры ўсім тым мова яго – жывая і літаратурная, прыгожая беларуская мова; пры ўсім тым яго ідэалогія – народная, сялянская беларуская ідэалогія. Яго мова захоплівае, дае веру і надзею, будзіць паснулыя сілы. Яго вочы гараць і прыкоўваюць да намаляваных яго словам абразоў". Гэтыя ўспаміны даюць уяўленне пра надзвычайную асобу Івана Луцкевіча. Усе свае намаганні ён прыклаў для абуджэння нацыянальнай памяці беларускага народа.

Скарбы, якія ўвайшлі ў ягоную ўласную калекцыю, павінны былі адкрыцца для шырокага кола людзей. Увосень 1912 г. на старонках "Нашай нівы" быў змешчаны заклік да стварэння Беларускага Музея. У ім гаварылася: "... Клічам усіх, хто спагадае адраджэнню 10-мільённага беларускага народа памагчы нам у збіранні музея. У музей, апрача рукапісаў і старых друкаў беларускіх, або не беларускіх, але цікавых, трэба збіраць старыя абразы, маляваныя на палатне, на досках і на блясе; выразаныя з дрэва і металу фігуркі; клішэ да друкавання малюнкаў, старую зброю і грошы; старасвецкую адзежу сялянскую, мяшчанскую, шляхоцкую; сялянскія вырабы, на якіх ёсць які цікавы малюнак тканы ці выразаны; старасвецкія вырабы са шкла, парцаляны, гліны, калі яны маюць на сабе нейкі цікавы малюнак ці цікавую форму і інш".

Верагодна, што аўтарам гэтага закліку быў сам Іван Луцкевіч. Ён планаваў шырока разгарнуць дзейнасць па расшукванні і вывучэнні памятак беларускай культуры, прыцягнуць да яе як мага больш удзельнікаў – ад простых сялян да замежных навукоўцаў. Прычым дзейнасць гэтая павінна была базавацца на трывалым навуковым грунце. Каб ажыццявіць такую задуму, у студзені 1918 года Іван Луцкевіч (на той час ужо цяжка хворы на сухоты) ініцыюе стварэнне Беларускага Навуковага Таварыства. Мэта існавання Таварыства сфармулявана ў ягоным Статуце наступным чынам: "Рознабаковая навуковая праца, развіццё любові да навуковых доследаў і пашырэнне веды". Дзеля ажыццяўлення гэтае мэты Беларускае Навуковае Таварыства: "а) закладае і ўтрымлівае ... музеі, бібліятэкі, навуковыя ўстановы; б) арганізуе выставы, экскурсіі, лекцыі, курсы і навуковыя з'езды; в) устанаўляе конкурсы і ўзнагароды за навуковыя працы; г) вядзе свае перыядычныя органы і выдавецкую работу; д) арганізуе свае секцыі і аддзелы".

13 траўня 1918 года на паседжанні Ураду Беларускага Навуковага Таварыства Іван Луцкевіч зрабіў афіцыйную заяву аб перадачы Таварыству пладоў сваёй шматгадовай працы: калекцыі старажытнасцяў, архіву і бібліятэкі. Аднак адкрыцца Музею пры Таварыстве суджана было ўжо пасля смерці збіральніка калекцыі. У 1921 годзе, праз два гады пасля смерці Івана Луцкевіча, нацыянальныя скарбы, сабраныя ім, былі перавезеныя ў Базыльянскія муры, дзе Беларускае Навуковае Таварыства атрымала асобае памяшканне.

Тут – у былым кляштары базыльянаў, старажытныя будынкі якога да сённяшняга дня называюць у Вільні Базыльянскімі мурамі, - утварыўся сапраўдны цэнтр грамадска-культурнага жыцця беларусаў. У міжваенны перыяд на Вастрабрамскай, 9 дзейнічалі Віленская Беларуская Гімназія, выпускнікамі якой сталі многія слынныя дзеячы беларускай гісторыі, Беларуская драматычная майстоўня Францішка Аляховіча. Тут знайшоў сабе месца з 1921 па 1944 гады і першы нацыянальны беларускі музей.

Уявіць размяшчэнне Беларускага Музея дазваляе апісанне, дадзенае ў кнізе "Вандроўкі па Вільні", што напісаная карэнным віленчуком, нашчадкам знакамітага роду Луцкевічаў Лявонам Луцкевічам: "Музей займаў сціплы куточак у вялізным кляшторным гмаху, а, дакладней, на першым паверсе ягонага паўднёвага крыла з правага боку. Памяшканне было зручнае тым, што мела зусім асобны ўваход цераз дабудаваны вонкавы ганак. Да таго ж уваход забяспечвалі моцныя каваныя жалезныя дзверы, якія існуюць і цяпер, толькі імі не карыстаюцца. На першы погляд узнікае ўражанне, быццам тут нічога не змянілася з таго часу, хаця мінула бязмала паўсотні гадоў, як музей мусіў пакінуць гэтае сваё прыстанішча.

Нават на вонкавай сцяне ганка між двума праёмамі, як на смех тырчыць той самы цвік, на якім мацавалася шыльда музею.

... З ганку ўваходзілася ў пpасторныя сенцы, з якіх вялі дзверы – налева ў экспазіцыйныя залі, наўпрост – у архіў, адначасна і рабочы кабінет, направа – у бібліятэку".

Дзейнасць па ўтрыманні Музея легла на плечы Антона Луцкевіча – малодшага брата і заўсёднага паплечніка Івана. Ён заняў пасаду дырэктара, а разам з ім непасрэдна ў Музеі працаваў толькі бібліятэкар Уладзімір Самойла. Кіраўніцтва Музеем было калегіяльным. Найбольш важныя пытанні вырашаліся на паседжаннях Рады. Захаваўся спіс складчыкаў грамадскага фонду Музея. Сярод іх Францішак Аляховіч, Вячаслаў і Янка Багдановічы, Эдвард Будзька, Вінцэнт і Францішак Грышкевічы, Вацлаў Іваноўскі, Пётра Сергіевіч, Адам, Янка і Станіслаў Станкевічы, Рыгор Шырма. Усяго спіс налічвае 122 прозвішчы, якія аказвалі дапамогу ў дзейнасці Музея.

Галоўнаю задачаю, што стаяла перад Антонам Луцкевічам, была праца па далейшым упарадкаванні і каталагізацыі фондаў Музея, стварэнні экспазіцыяў, а таксама па росшуку новых каштоўных экспанатаў. Большая частка невялікіх даходаў Музея ішла на набыццё кніг і твораў матэрыяльнае культуры. Аднак у параўнанні з калекцыяй Івана Луцкевіча колькасць новых знаходак была нязначнаю. Зборы Беларускага Музея, як папярэдне і калекцыя Івана Луцкевіча, падзяліліся на наступныя раздзелы:

1. Матэрыялы археалагічных раскопак.
2. Нумізматычная і сфрагістычная калекцыя
3. Старадаўняя зброя.
4. Этнаграфічныя зборы (адзенне, тканіны, хатнія вырабы, музычныя інструменты і інш.)
5. Калекцыя твораў выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтваў (карціны, абразы, графіка, разьба па дрэве, гравюры).
6. Бібліятэка і архіў.

Гэтыя багатыя і разнастайныя матэрыялы размяшчаліся ў пяці экспазіцыйных залях. На вялікі жаль, з прычыны недахопу памяшканняў і выставачных вітрынаў далёка не ўсе экспанаты – нават з ліку самых цікавых – былі даступныя для агляду.

Бібліятэка пры Музеі налічвала 14000 тамоў. У склад яе, апроч кнігазбору Івана Луцкевіча, увайшлі зборы Еўдакіма Раманава і Барыса Даніловіча. Рукапісны аддзел бібліятэкі уключаў дзве часткі: рукапісы старажытныя і архіўныя рукапісныя матэрыялы, звязаныя з беларускім адраджэнскім рухам.

Найстарэйшаю кнігаю, што захоўвалася ў Музеі, было рукапіснае жухавіцкае Евангелле XIУ ст. з багатымі ілюстрацыямі.

З рукапісных кніг вялікую навуковую цікавасць уяўляў Аль-Кітаб, знойдзены Іванам Луцкевічам пад Вільняю ў мястэчку Сорак Татар. Аль-Кітаб – мусульманскія тэксты на беларускай мове, напісаныя арабскім пісьмом. Сур'ёзнае навуковае даследаванне Аль-Кітабаў пачалося менавіта ў Беларускім Навуковым Таварыстве, дзеячы якога ўпершыню звярнулі ўвагу на вялізную каштоўнасць гэтых кніг пры вывучэнні граматычных і фанетычных асаблівасцяў беларускае мовы ў XУI стагоддзі.

Беларускі Музей меў багатыя зборы старадаўніх беларускіх грамат прыватнага і дзяржаўнага характару. Многія актавыя паперы былі падпісаныя вялікімі князямі Літоўскімі ды каралямі Польскімі.

Шмат рукапісных архіўных матэрыялаў датычылася дзейнасці ў Вялікім княстве Літоўскім ордэну базыльянаў.

У аддзеле старадрукаў вялікую цікавасць для даследчыкаў беларускай кніжнасці і літаратурнай мовы ўяўлялі Біблія 1517 года, друкаваная Францішкам Скарынам у Празе (частка), віленскае выданне Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года (друкарня братоў Мамонічаў), кнігі XУII – XУIII стагоддзяў з Куцеінскай, Еўеўскай, Лоскай, Нясвіжскай, Слуцкай, Полацкай, Віленскай друкарняў.

Беларускі Музей стаў архівам нацыянальнага адраджэння. Тут захоўваліся камплекты "Нашай нівы", іншыя беларускія перыядычныя выданні пачатку стагоддзя. Асаблівую гістарычную значнасць мелі рукапісныя дакументы і перапіска беларускіх незалежніцкіх арганізацыяў і палітычных партыяў, асабістыя паперы дзеячаў беларускага адраджэння.

Багатым быў археалагічны аддзел Музея. Тут былі прадстаўленыя рэчы, знойдзеныя падчас раскопак, што праводзіліся ў розных кутках Беларусі: у Ашмянскім, Барысаўскім, Віленскім, Гомельскім, Лідскім, Менскім, Наваградскім, Пастаўскім і іншых паветах (усяго больш за 18). Шмат рэчаў паходзіла з раскопак Яўстафія Тышкевіча, асобныя прадметы – з калекцыі Генрыка Татура, значная колькасць знаходак была зробленая самім Іванам Луцкевічам.

Сфрагістычная калекцыя Музея налічвала 103 пячаткі. Найстарэйшыя з іх датаваліся XI і XII стагоддзямі: пячаткі на сігнетах Полацкіх князёў Усяслава і Барыса, якія давалі навукоўцам адказ на пытанне пра гербы стваральнікаў першай беларускай дзяржавы. Захоўвалася тут і пячатка Міндоўга. У вялікай колькасці былі прадастаўленыя пячаткі манаскіх ордэнаў, манастыроў, школаў, войскаў Вялікага княства Літоўскага. Нумізматычныя зборы складаліся з калекцыі манетаў часоў Вялікага княства і Рэчы Паспалітай, замежных манетаў.

Калекцыя твораў мастацтва ўключала вялікую колькасць старадаўніх абразоў (як мясцовага пісьма, так і Рублёўскай, Строганаўскай, Наўгародскай школаў, візантыйскага стылю – за розныя перыяды, пачынаючы ад XIII ст.). Зборы гравюраў, эстампаў мясцовага паходжання прадстаўлялі каштоўны матэрыял для даследчыкаў беларускай графікі. Асобнае месца сярод гэтых збораў належала 12 каляровым дрэварытам (народным лубкам) XУIII ст., якія паходзілі з Віленскіх друкарскіх майстэрняў. Яны былі сабраныя па цэрквах Віленшчыны або набытыя ад прыватных калекцыянераў. Адзін з найкаштоўнейшых лубкоў збору – "Маці Божая" (1750 г.) меў беларускі подпіс віленскага майстра Паўлы Комара.

Вельмі каштоўнаю лічылася калекцыя твораў беларускай народнай разьбы, якія пераважна паходзілі з Віленшчыны і часткова з Наваградчыны. Антон Луцкевіч пісаў пра іх: "Для даследчыка народнага мастацтва – гэта сапраўдны скарб", "для вывучэння народнай творчасці – неацэннае і не выкарыстанае да гэтуль багацце".

Стваральнікі Музея надавалі ўвагу і збіранню твораў беларускіх мастакоў і скульптараў пачатку стагоддзя. Тут захоўваліся калекцыі работ П. Сергіевіча, Я. Драздовіча і інш. Па ўспамінах наведвальнікаў Музея, адразу пры ўваходзе ў Музей ты апынаўся ў касмічным, захапляльным свеце твораў Язэпа Драздовіча: ягонымі карцінамі былі завешаны сцены сенцаў.

Этнаграфічныя зборы Музея ўключалі тканіны хатняга вырабу, народнае адзенне, паясы, у тым ліку і мануфактурнай работы – славутыя залатыя слуцкія паясы. Варта адзначыць, што супрацоўнікі Музея вялі шырокую работу па збіранні матэрыялаў, звязаных з народным ткацтвам, традыцыйным адзеннем, прадметамі побыту, а таксама з беларускім народным дойлідствам. Па просьбе Антона Луцкевіча ў 1926 годзе Язэп Драздовіч выправіўся ў вандроўку па Пінскім Палессі – краі, што захоўваў глыбінныя народныя традыцыі. Пад уражаннем захаванасці традыцыйнай культуры Я. Драздовіч рабіў шматлікія замалёўкі народных строяў, этнаграфічных тыпаў, рэчаў хатняга ўжытку, драўлянага народнага дойлідства. Сабраныя ім альбомы былі перададзеныя ў Беларускі Музей. Акрамя Палесся Язэп Драздовіч вандраваў па Наваградчыне і сваёй роднай Дзісеншчыне, дзе таксама збіраз і замалёўваў этнаграфічныя матэрыялы. У 1933 г. Беларускае Навуковае Таварыства набыло два альбомы Язэпа Драздовіча, прысвечаныя сялянскім пабудовам і палацава-замкаваму дойлідству.

*(Заканчэнне на ст. 8)*

# Аляксандру Канстанцінавічу Шыдлоўскаму – вялікаму чалавеку гарадзенскай зямлі, у сувязі з 90-годдзем, прысвячаецца…

Я ўвесь час думаю, што за праява гэта душа? Чаму яна так баліць, калі кране яе спакусліва злы дух у абліччы прывабліва-жорсткага чалавека? І наогул адкуль бяруцца жорсткія і бязлітасныя, да грошай прагныя і хлусьлівыя? Усе ж мы Богам пасланыя на гэту Зямлю. Дык адкуль? Чаму ў аднаго душа вялікая, а ў другога яе зусім няма? Вось пытанне!

Пішу пра гэта таму, што пазнаніў неяк у сярэдзіне чэрвеня мне адзін, на першы погляд, прыстойны чалавек і ад таго, што ён сказаў стала балець душа, душа заплакала ды так, што людзі на вуліцы, гледзячы ў вочы, пыталіся: "Што здарылася?" А цераз некаторы час пазваніў другі чалавек… Абудва гаварылі на адну і тую ж тэму, але адзін пакрыўдзіў, а другі сказаў: "Ды кінь ты, нарэшце, свой боль, па ўсім не на перажываеш, схадзі лепш і пакланіся вялікаму Шыдлоўскаму, у Горадні яго 90-гадовы юбілей святкуюць, можа мудрасці набярэшся, а ўсё астатняе, глядзіш і адыдзе, а я там цябе сустрэну". Я так і зрабіла, села ў аўтобус, прыехала ў Гародню і трапіла ў гарадскі Дом Культуры, дзе праходзіла ўрачыстае ўшанавапнне юбіляра – заслужанага работніка культуры Беларусі, ганаровага чалавека г.Горадні, кампазітара А.К.Шыдлоўскага, песня якога "Колькі ў небе зор" на вякі вечныя праславіла гарадзенскі край. У святочнай зале панавалі шчырасць і дабрыня, там былі самыя яркія гарадзенскія людзі, самыя разумныя, там панавалі песні Аляксандра Шыдлоўскага, яго светапогляд, яго талент. У зале было светла ад людскіх вачэй і сэрцаў.

Сам юбіляр трымаўся вельмі гарна. Магчыма, я не назаву ўсіх прозвішчаў тых людзей, хто віншаваў і, каб людзі на мяне не пакрыўдзіліся скажу, што з боку на ўсіх было вельмі прыемна глядзець.

Аднагодак юбіляра – Апанас Цыхун, як заўсёды, за словам у кішэню не лез ды і словы ў яго былі на вагу золата, а пані Ларыса Ляшэнка – знакаміты харэограф гарадзенскай зямлі ў падарунак Шыдлоўскаму вышыла цудоўную кашулю. Прыемна было бачыць вечна маладых Зінаіду Арцюховіч і Марка Копа. Я думаю, што ў той дзень у парачнанні з юбілярам, усе адчувалі сябе юнымі. Радавалі вока таксама васількі, якія прынёс юбіляру заўсёды самабытны Яўген Петрашэвіч і яшчэ стаяць у памяці гукі дудкі Мар'яна Скрамблевіча. Усё гэта было для Аляксандра Шыдлоўскага.

Аляксандра Канстанцінавіча віншаваў прафесар Гарадзенскага універсітэта Аляксей Пяткевіч, ад гарвыканкама з віншавальнымі словамі выступаў Яўген Жэбрун, ад абласной Управы культуры Анатоль Цярэнін. Было яшчэ многа віншаванняў і ад міністра культуры, казалі, таксама было.

А вось імпрэзу вёў Алесь Лойка, які зараз ўзначальвае абласны цэнтр народнай творчасці – Дом Шыдлоўскага (бо калісьці Аляксандр Канстанцінавіч сам кіраваў гэтым цэнтрам і пакінуў там у спадчыну сваю высокую ўнутраную культуру, свае традыцыі, свой узровень, свой дух).

На першы раз кідаецца ў вочы тая акалічнасць, што вельмі дружна на такіх адказных мерапрыемствах працуе ўвесь калектыў абласнога Дома Шыдлоўскага, які зараз вядзе за сабою Алесь Лойка. Малайцы, хлопцы і дзяўчаты!

Дарэчы шаноўны юбіляр прысвяціў Алесю і яго жонцы Зосі цудоўную песню пра іх каханне, у якой так многа ўзвышаных і шчырых слоў. Гэту песню Алесь з Зосяй выканалі на 90-гадовым дні нараджэння Аляксандра Канстанцінавіча. Словы і музыка А.Шыдлоўскага, песня пра Зосю і Алеся:

Пад акном рабіна стаяла
Белым цветам стройна цвіла
А ў хаце з песняй любоўнай
Прыгажуня Зося расла.

Прайшло лета, восень настала
Чырванню рабіны гараць
А Зосенька думку гадала
Каму сваё сэрца аддаць.

Шмат сватоў у Зосі бывала
Ды ніхто багаццем не ўзяў
Бо яна Алеся кахала
Што хароша песні спяваў.

Жыць шчасліва цяжка бывае
І багацце гэта не ўсё
А любоў – чароўная песня
І песняй будзе жыццё.

Песня на мой погляд, атрымалася вельмі ўдалая. Я віншую усіх траіх: Аляксандра Канстанцінавіча і Зосю з Алесем. Вельмі пранікнёнае атрымалася выкананне, узялі за сэрца і словы, і музыка, і галасы. Многа было і будзе яшчэ падарункаў у сям'і Лойкаў, але такога падарунка, які яны атрымалі ад вялікага Шыдлоўскага, можа не быць ужо ніколі і гэта трэба цаніць.

На юбілеі ў Шыдлоўскага было шампанскае, юбілейны торт, букет, у склад якога ўваходзіла аж 90 ружаў і, вядома ж, "Многае лета", мноства кветак, прамова самога юбіляра.

З Гродна я вярталася з усмешкай на твары, мне здавалася, што мне ўсяго 16 год і ўсё самае лепшае ў мяне наперадзе.

З вышыні сённяшняга дня мне хочацца звярнуцца да вялікага і мудрага Шыдлоўскага з такімі словамі:

"Паважаны Аляксандр Канстанцінавіч, ад імя прагрэсаўскіх артыстаў, як верцялішскіх так і жытамлянскіх віншую Вас з днём нараджэння.

Няхай Святло Вашых песень асвятляе жыццёвыя дарогі будучым пакаленням, а Усемагутны Божа апякуецца над Вамі днём і ноччу, у часіну радасці і смутку і ніколі не пакідае Вас у самоце".

*З павагай Тарэса Адамовіч з Верцялішак Гарадзенскага раёна.*

# Сэрца беларускай Вільні: да 80-х угодкаў заснавання Беларускага Музея імя Івана Луцкевіча

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 7)*

Такім чынам, Беларускі Музей імя Івана Луцкевіча ўяўляў сабою універсальную па сваіх зборах навукова-даследчую ўстанову, якая паспяхова выконвала рэпрэзентатыўную функцыю – знаёміла мясцовых і замежных навукоўцаў з багаццем і разнастайнасцю беларускай культурнай спадчыны. Статус гэтай установы быў прызнаны афіцыйна: Беларускі Музей уваходзіў як паўнамоцны сябра ў склад "Саюзу музеяў Польшчы". У спісе сяброў "Саюзу" Беларускі Музей прадстаўляе Вільню разам з этнаграфічным і археалагічным музеямі пры Віленскім універсітэце імя Стэфана Батора. Можна зрабіць высноў, што ён быў адным з трох найбольш значных музеяў тагачаснай Вільні. У 1931 і 1932 гадах Музей наведала больш за 500 асобаў і па некалькі дзесяткаў экскурсій. І гэта пры ўліку немагчымасці адкрыць наведване Музея для ўсіх цікаўных з прычыны неканчатковай упарадкаванасці ягоных фондаў і недахопу памяшканняў. Як сведчыць справаздача аб дзейнасці Беларускага Навуковага Таварыства, напісаная Антонам Луцкевічам, у бібліятэцы пры Музеі працавала вялікая колькасць студэнцкай моладзі, якая займалася доследамі ў галіне беларушчыны, а таксама і замежных навукоўцаў – з Францыі, Нямеччыны, Нарвегіі, Паўночнай Амерыкі і інш.

Беларускі Музей імя Івана Луцкевіча быў цэнтрам навуковага жыцця беларусаў Вільні. Нацыянальныя скарбы, сабраны тут, маглі б даць яшчэ шмат каштоўнага для беларускай навукі матэрыялу. Аднак лёс Музея склаўся трагічна. У кастрычніку 1939 года Беларускае Навуковае Таварыства было зліквідаванае савецкімі уладамі, што занялі Вільню, праз арышт і вываз большасці сяброў Таварыства, у тым ліку і Антона Луцкевіча. Пасля перадачы Вільні Літве і да часу ліквідацыі ў 1945 годзе Музей існаваў як дзяржаўная ўстанова – спачатку ў складзе Інстытута Літуаністыкі, а пазней Акадэміі Навук Літвы. У 1945 годзе Музей быў зачынены літоўскімі савецкімі ўладамі, а ягоныя зборы расфармаваныя. Пераважная большасць экспанатаў – найбольш каштоўныя матэрыялы – засталіся ва ўласнасці літоўскіх бібліятэк, музеяў і архіваў. На Беларусь патрапіла толькі частка рукапіснага аддзелу бібліятэкі Музея. Гэтыя дакументы захоўваюцца цяпер у Цэнтральным дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва Беларусі. Нават гэтая нязначная частка збораў Беларускага Музея імя І. Луцкевіча сёння захоўвае яшчэ шмат каштоўных звестак пра гісторыю беларускага адраджэння на пачатку XX стагоддзя і чакае свайго даследчыка.

*Вабішчэвіч Тацццяна, студэнтка БУК.*

## Давайце смяяцца па-беларуску

**Анатоль Гарачоў**

### ДЭТЭКТЫЎНАЯ ГІСТОРЫЯ

Сплю і бачу трэці сон,
Ды чую спрасонку,
Быццам нейкі ціхі звон –
Паднялася жонка,

Не ўключаючы святло
Стала апранацца.
Падазрэнне ўзяло –
Стаў я прыглядацца.

Ды куды ж яе нясе
А палове ночы?
Нездарма, мо, ёй сусед
Пагдядаў у вочы?

Ціха порткі я надзеў
І спусціўся з печы:
Трэба неяк падглядзець
Гэтую сустрэчу.

Гаварыў жа мне сябрук,
Але я не верыў…
Тут за пояс я бяру
Вострую сякеру…

Цёмна, што ні гавары,
Хоць на небе зоркі:
Вось прайшлася па двары,
Выйшла на задворкі,

І ідзе па пальнягу,
Я ж за ёю следам
З ёй іду нага ў нагу,
Каб злавіць з суседам.

Затаіўся за вуглом
Ды стаў пагдядаці:
Загарэлася святло
У суседа ў хаце.

Колькі там хвілін праходзіць,
Хоць і бачна слаба,
Ды да жонкі падыходзіць
Не мужык, а баба…

Што тут, браце, не кажы –
Выйшла мая п'янка:
Да чаго ж тут я дажыў –
Жонка – лезбіянка.

Адышоў я ад сцяны –
Пайду да суседа…
Бачу: тупаюць яны,
Бы шукаць следа.

Я спыніўся і заціх,
Змакрэў ад напругі,
Ды пад пахамі ў іх
Бачу я дзяругі…

Вось знайшлі яны сляды,
І пайшлі дзве Насці
Да калгаснае скірды,
Каб саломы ўкрасці.

Тут засоп я, нібы слон,
І пайшоў да ганка.
Не адзін яшчэ, мо, сон
Убачу да світанку.

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеней інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 16. 07. 2001 г.
Наклад 5000 асобнікаў. Замова № 1602.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 274 руб., 3 мес.- 822 руб.
*Кошт у розніцу:* 70 руб.